

# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 10 (38), 7—13 красавіка 1993 г. Цана 3 рублі



## Віцебскі тэатральны марафон: імгненні свята



Фота А. АНТОНА.





## Ладзяць канферэнцыю

Адну з самых злабадзённых праблем нашага грамадства—пытанні працы мясцовай улады плануе абмеркаваць на навукова-практычнай канферэнцыі «Мясцовае самакіраванне як аснова сапраўднага народаўладдзя» Віцебская гарадская філія Рэспубліканскага Фонда Падтрымкі Дэмакратычных Рэформ імя Л. Сапегі. Яе правядзенню садзейнічаюць гарадскія ўлады.

Арганізатары канферэнцыі запрашаюць дэпутатаў мясцовых Саветаў усіх узроўняў, прадстаўнікоў выканаўчых органаў, членаў партый і рухаў, інтэлігенцыю, прадпрымальнікаў, гаспадарнікаў—усіх, каго хвалюе гэтая праблема, у каго ёсць сваё меркаванне аб тым, якой павінна быць мясцовая ўлада, каго цікавяць думкі іншых наконт гэтага.

На канферэнцыі выступяць вучоныя—члены Фонда, госці з Польшчы і Прыбалтыкі, дэпутаты і работнікі выканаўчых органаў.

Пачатак канферэнцыі 25 красавіка 1993 года ў 10 гадзін у актавай зале Кастрычніцкага райвыканкама Віцебска. Кантактныя тэлефоны: **36-30-82, 2-96-92.**

*У мясцовых філіях*

## НЕЗВАЖАЮЧЫ НА ПЕРАШКОДЫ

Прайшла справаздачна-выбарная канферэнцыя Віцебскай гарадской рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Яна сабрала зацікаўленае кола сяброў і прыхільнікаў нацыянальнага Адраджэння з шэрагу дашкольных устаноў, настаўнікаў сярэдніх школ, студэнтаў і выкладчыкаў ВНУ, прадстаўнікоў выканаўчай улады, некаторых прадпрыемстваў, мастацкага асяроддзя, журналістаў.

Рада ТБМ, незважаючы на сваю нешматлікасць, даволі актыўна працавала дзеля пашырэння сферы ўжывання беларускай мовы ў дзяржаўных структурах, аднаўлення беларускамоўнага асяроддзя. Але сапраўднай дапамогі ад тых, хто ва ўладзе, мы не атрымалі,— сказаў у справаздачы старшыня рады В. Арлоў. Гэтым, дарэчы, карыстаюцца непрыхільнікі беларушчыны, якія апошнім часам развярнулі шалёную антыбеларускую кампанію, найперш у некаторых сродках масавай інфармацыі.

Старшыня адначыў, што, калі мясцовая выканаўчая ўлада лічыць беларускае Адраджэнне справаю нашай дзяржаўнасці, то трэба зразумець, што праца аматарскага Таварыства не можа й не павінна замяніць дзяржаўнай палітыкі.

Каб яе (палітыку) праводзіць на належным узроўні, гарвыканкам, напрыклад, можа прызначыць штатную адзінку, якая б сачыла за выкананнем Закона аб мовах.

Работа ж самой тутэйшай філіі ТБМ пакуль недастатковая. Але гэта можна зразумець. Брак сродкаў, адсутнасць памяшкання, супрацьлеглае адміністрацыі шэрагу прадпрыемстваў ды ўстаноў перашкаджаюць дзейнасці тэбээмаўцаў.

Пасля абмеркавання вынікаў мінулай і планаў будучай працы Таварыства, прысутныя выбралі 13-цiасабовую гарадскую раду, старшынём якое зноў абраны В. Арлоў.

**Ю. ТУТЭЙШЫ.**

## ЗАЯВА ВІЦЕБСКАЙ ГАРАДСКОЙ КАНФЕРЭНЦЫІ ТБМ

Віцебская гарадская канферэнцыя Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, якая адбылася 19.03.93 г., лічыць сваім абавязкам заявіць наступнае.

За тры гады пасля прыняцця Закона «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» з'явіліся прыкметы пашырэння сферы яе ўжывання і разумення значнай часткай грамадскасці гэтай акалічнасці як безальтэрнатыўнай магчымасці выйсця з культурнага крызісу, што створаны ўсім ладам папярэдняга прад- і пасляваеннага жыцця Беларусі.

На жаль, тыя парасткі Адраджэння, якія знітаваныя з выкарыстаннем беларускай мовы, працўнікі самабытнасці і годнасці беларусаў і Беларусі ўзялі на ўзбраенне ў якасці палітычнага аргумента ў барацьбе з беларускім «нацыяналізмам».

Вялікадзяржаўнікі са «Славянскага сабора «Белая Русь» і іншых згуртаванняў аналагічнага накірунку імкнуцца адмовіць беларусам у існаванні як нацыі і адначасова зноў бяруць на ўзбраенне замшэлую ідэю панславянізма, цягнуць у новую-старую супольнасць—ужо ўсходне-славянскага этнасу, пад шаты вядомай двухгаловай птушкі, якая для Беларусі заўжды застанецца сімвалам яе зневажання, прыгнёту і рабства.

Такое стаўленне да нашага Адраджэння і мовы—не што іншае, як элемент псіхалагічнай спадчыны імперскага панавання той часткі людзей, якія не могуць сябе уявіць інакш, як валадарамі ці рабамі.

Усе сумленныя беларусы і суайчыннікі іншых нацыянальнасцей павінны добра зразумець, што калі і беларускі акцэнт знікне з нашых вуліц (а гэта адбудзецца пры афіцыйным юрыдычным двухмоўі), як знік яўрэйскі, дык і нас, на нашай зямлі, чакае той жа лёс. Але для нас зямлі запаветнай за мяжой Беларусі няма.

Хоць самастойнасць і палітычная незалежнасць зараз галоўнае, але калі мы адмовімся ад беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай—гэта будзе першым, а можа і апошнім крокам да самавынішчэння.

Каб гэтага не здарылася ніколі, мы заклікаем усіх нашых сяброў і далей працаваць настойліва і плённа, з яшчэ большым імпэтам на ніве Адраджэння.

Нацыянальнае Адраджэнне павінна стаць мэтай дзяржаўнай палітыкі, а выкананне Закона «Аб мовах...»—справай усіх афіцыйных асоб.

У гарадскіх альбо раённых выканкамах трэба вызначыць спецыяльных людзей для курыравання Закона і дзяржаўнай праграмы аб мовах і кантроля за іх выкананнем.

# שלום ШАЛОМ

**Слова «Шалом» на яўрэйскай мове мае шмат значэнняў. Гэта і традыцыйнае прывітанне, і пажаданне міру, і сам мір. Людзі страчаюцца, працягваюць адзін аднаму рукі, і гавораць «Шалом», жадаючы толькі добрых вестак, міра, здароўя, шчасця. Пагэтаму мы Вам сёння гаворым «Шалом».**

**Вы трымаеце ў руках першы нумар нашага выпуска, падрыхтаванага Цэнтрам яўрэйскае культуры. Спадзяемся, што ягоныя старонкі будуць перыядычна выходзіць у свет. Мы ўдзячны рэдакцыі газеты «Выбар» за дадзеную нам мажлівасць сустрэцца са сваімі чытачамі.**

**Шалом!**

**Давід СІМАНОВІЧ**

И, вдруг заметив южный зной
в моих обугленных глазах,
ты говоришь, что я—изгой,
что я чужой землёй пропах.

А я при свете и во мгле
здесь жил, и грешен был, и свят.

Здесь мать моя лежит в земле,
и предки все мои лежат.

И каждым днем, и жизнью всей,
где гетто есть и есть Шагал,
я подтверждаю: я—еврей!
И предков я не забывал.

**1980, 1993**

## Другое нараджэнне

**Яўрэйская абшчына ў Полацку ўтварылася ў сярэдзіне XVI стагоддзя і была першаю на Беларусі. З ёю звязана шмат знамянальнага ў яўрэйскай гісторыі.**

У 1563 годзе цар Іван Жахлівы захапіў Полацк і загадаў сілай ахрысціць усіх яўрэяў. Яны ўвайшлі ў Дзвіну недалёка ад княскага замка, але не для таго, каб падпарадкавацца прыказам, а каб прыняць смерць у імя сваёй веры. Лягенда гаворыць, што ў жывых з трох тысячаў полацкіх габрэяў засталося толькі двое дзяцей, хлопчык ды дзяўчынка, каторых прытулілі тутэйшыя жыхары. Потым яны падраслі і ажаніліся. Ад іх пайшло прозвішча Баркан і новыя полацкія яўрэі.

Недалёка ад Полацка ў мястэчку Лужкі нарадзіўся Элізэр Перальман, вядомы свету як Элізэр Бен-Іегуда. З імем гэтага чалавека звязана адраджэнне мовы іўрыт.

Апошнія дзясяцігоддзі габрэі горада, як і ўсяе краіны, былі «яўрэямі маўчання».

І вось нядаўна больш пяцісот чалавек сабралося на арганізацыйны сход, дзе вырашана заснаваць Полацкі яўрэйскі культурны цэнтр. Ужо праведзены першыя мерапрыемствы цэнтра. Маем надзею, што старажытная абшчына адрадзілася для нармальнага жыцця.

**С. ГАДОРЫН.**

## «Сем сорок»

У бліжэйшы час з'явіцца ў продажы другая кніга альманаха «Семь сорок». Гэтаксама як і ў папярэднім кнізе, ейныя старонкі раскажуць чытачам пра жыццё габрэяў Беларусі, Расіі, Летувы, Украіны.

Вы зможаце прачытаць прозу, вершы, дакументальна-публіцыстычныя матэрыялы. Перадаў альманаху для публікацыі раздзелы свайго новага рамана вядомы пісьменнік з Вільні Рыгор Кановіч.

У другім выпуску альманаха, як і ў першым, будуць прадстаўлены аўтары з Віцебска. Публікуюцца вершы Давіда Сімановіча і дакументальны нарыс Аркадзя Шульмана.

## Яўрэйскія газеты

На Беларусі ўжо выходзяць тры яўрэйскія газеты. Дзве ў Менску—старая знаёмая «Авив» («Вясна») ды новая «Еврейские новости». Трэцяя газета аднавіла сваё выданне ў Гомелі. Называецца яна «Ахтуд»—«Адзінства».

Усе газеты выходзяць на рускай мове мізэрнымі накладамі з перыядычнасцю раз на месяц. Але ў «Авива» ўжо ёсць пастаянныя чытачы. «Еврейские новости» і «Ахтуд», спадзяемся, набудуць іх.

Ва ўсіх газетах друкуецца шмат цікавай інфармацыі, у тым ліку й з Віцебска.

Купіць выданні па меры іх выхаду можна ў сінагозе (вул. 1-ая Калгасная, 4).

**П. ПЕРЛІН.**

## Папрыгажэла

*Да свята Песах старая драўляная сінагога, што на вул. 1-ай Калгаснай, 4, «апранулася» ў новае ўбранне. Будаўнікі закончылі працы па абкладанню сценаў белай цэглай.*

*Але мала хто ведае, што завяршальная частка работ па рамонту храма была выканана на грошы, сабраныя былым кіраўніком віцебскай яўрэйскай рэлігійнай абшчыны, а зараз жыхаром Ізраіля Львом Саламонавічам Юдовіным.*

**А. АР'ЕЛ.**

## СА СВЯТАМ, ДАРАГІЯ СЯБРЫ!

**З 6 да 13 красавіка яўрэі, што жывуць у розных кутках зямнога шара, святкуюць Песах, Свята Выхаду з егіпецкай няволі. Замест звычайнага хлеба ў Песах ядуць мацу. У першыя два вечары свята спраўляюцца ўрачыстыя трапезы-седэры.**

**Песах—падвойнае свята, свята свабоды й вясны. У суботу, што выпадае на Песах, у сінагогах чытаюць «Песню над песнямі», якая змяшчае красамоўнае апісанне вясны і кахання.**

**Песах святкуюць восем дзён. Дні з трэцяга па шосты лічацца напаўсвяточнымі «хол ха-моэд».**

## «Ды ідышэ гас»

Трыццаць гадоў у былым Савецкім Саюзе выходзіў часопіс на мове ідыш «Советыш Геймланд», што ў перакладзе гучыць як «Савецкая Радзіма».

Штогод станавілася ўсё менш і менш носьбітаў мовы і наклад няспынна падаў. Крыху апярэдзіўшы падзеі (Савецкая радзіма яшчэ існавала), выданне, што насіла аднайменную назву, сканала.

Мінула паўтара гады. Аўтарскі калектыў часопіса сабраўся з духам і выпусціў аднавіць выданне. Праўда, цяпер яно будзе называцца «Ды ідышэ гас» («Яўрэйская вуліца»). Друкавацца будзе ў Маскве, аднак у яго выданні прымуць удзел габрэйскія абшчыны многіх краін Амерыкі, Еўропы. Зрэшты, у нас у гэтым годзе адкрыта падпіска на гэты часопіс. Яго першы нумар выйдзе, літаральна, на днях.

У рэдкалегію «Ды ідышэ гас» увайшоў наш зямляк, ураджэнец Чашнікаў, старэйшы яўрэйскі пісьменнік Беларусі, які зараз жыве ў Менску, Гірш Рэлес. Хутка яму спаўняецца восемдзесят гадоў. Мы віншуем юбіляра і зычым яму даўгалецця.

**А. Н.**

## Першыя крокі

Рэфармісцкі іудаізм, які прапаноўвае больш вольную трактоўку многіх рэлігійных нормаў, атрымаў шырокае развіццё ў краінах Заходняй Еўропы, Амерыкі.

Калі адкрыліся граніцы і для людзей, і для інфармацыі, рэфармісцкі іудаізм прыйшоў на Беларусь. Напачатку лютага гэтага года было зарэгістравана шэсць абшчынаў. І вось цяпер «рэфармісты» робяць першыя крокі ў Віцебску.

Мяркуем у адным з бліжэйшых нумароў «Шалома» больш падрабязна распавесці пра рэфармісцкі іудаізм.

## Прыязджайце ў «МЕКОР ХАІМ»

У клубе «Бней-Аківа» адбылася сустрэча з выкладчыкамі маскоўскай ешывы (вышэйшай рэлігійнай навучальнай установы) **«МЕКОР ХАІМ»** равінамі Давідам Ешубаевым і Хаімам Піцам.

Навукоўцы распавялі пра розныя ешывы, аб правілах прыёму, пра дысцыпліны, што вывучаюцца там, і запрасілі на вучобу.

Тыя, хто яшчэ цвёрда не вырашыў і сумняваецца, паступаць вучыцца ў ешыву ці не, могуць прыехаць у **«МЕКОР ХАІМ»** на кожны шабат (суботу) і сваімі вачыма ўбачыць усё.

Адрас ешывы: Россия, Москва, ул. Звенигородская, 16. Тэл. 144-32-46 ды 144-37-69.

**А. РАМАНЕЎСКІ.**

*Новыя імёны*

## Знаёмцеся: Вераніка Астраўлянская

*Хочацца верыць, што ў гэтай мастачкі добрая будучыня. У любым выпадку передумовы для такога аптымістычнага прагноза ёсць. Талент, настойлівасць, працавітасць, упэўненасць у сябе—усё на месцы.*

*Вераніка Астраўлянская закончыла Віцебскую мастацкую школу, потым вучылася ў Бабруйскім мастацкім вучылішчы. Атрымала спецыяльнасць «мастак роспісу па дрэве». Пра сваю спецыяльнасць яна не забывае, займаючыся лакавай мініяцюрай. Але кола прафесійных інтарэсаў мастачкі з кожным днём усё шырэй і шырэй. Малюнкі сабак, выкананыя алоўкам, тушшу. Дарэчы, тэма для цэлай выставы. Затым пейзажы куткоў старога Віцебска. І, нарэшце, серыя партрэтаў, якія выкананы пастэллю. Аднак, пра творцу лепей за ўсё гавораць яго работы.*

*Вы бачыце на ілюстрацыях серыю партрэтаў Веранікі Астраўлянскай: «Аўтапартрэт», «Бабуля», «Леў Юдовін». Дарэчы, усе малюнкі для «Шалома» таксама зроблены Веранікай.*

*Гледачы ўжо мелі магчымасць бачыць яе працы ў дзіцячай мастацкай школе, падчас святкавання Ханукі ў абласной філармоніі, у Мастацкім музеі на выстаўцы «Вясновая мазаіка». Думаем, дачакаемся і персанальнай выставы маладой мастачкі.*







## Зборнік па гісторыі й літаратуры

Міжнародным навукова-даследчым таварыствам ЗЕЗАМ выпушчаны ў свет двухтомны «Сборник статей по еврейской истории и литературе» пад рэдакцыяй прафесара М. Жыдавецкага (Ізраіль).

У зборніку прадстаўлены навуковыя доследы, заметкі, нататкі, успаміны, біяграфічныя матэрыялы, мастацкія творы, якія адлюстроўваюць гісторыю савецкага яўрэйства (1917—1967 г.г.).

Літаратурны раздзел складаецца з неапублікаванай раней аповесці І. Бабеля «Еврейка» і двух артыкулаў аб ягонай творчасці, апавядання С. Лявіцінай «Банкет» пра лёсы яўрэяў у грамадзянскую вайну і дэтэктыўнай аповесці «Тёмное дело» з «Вестника Европы» за 1873 год.

У матэрыялах, змешчаных у кнізе, неаднаразова прыгадваюцца Віцебск, Орша.

**Л. ЛЯЯБОВІЧ.**

## Трыо «Шын»

Шын—адна з літар яўрэйскага алфавіта. Чамусьці менавіта яна спадабалася маладым хлопцам і яны назвалі сваё трыо «Шын».

Нядаўна ў абласной філармоніі трыо выступала з новай праграмай «Шумі, грымі, родная Малдаванка», напісанай па матывах «Одесских рассказов» Ісаака Бабеля. Словы ды музыку песняў напісаў для «Шын» ягоны кіраўнік Барыс Бляхман.

Прэм'ера новае праграмы сабрала шмат гледачоў і была імі цёпла сустрэта.

**Л. АЛЬТАЎ.**

**З 18 красавіка кожную нядзелю з 13 да 14 гадзін па адрасу Віцебск, вул. 1-ая Калгасная, 4, у будынку сінагогі пачне працаваць КАНСУЛЬТАЦЫЙНЫ ПУНКТ ПА ПЫТАННЯХ РЭПАТРЫЯЦЫІ.**

**Вы атрымаеце адказ на ўсе пытанні, што цікавяць Вас.**

# Яшчэ раз пра святкаванне...

## ...у Менску

21 сакавіка ў гонар 75-ых угодкаў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі па ініцыятыве Беларускага згуртавання вайскоўцаў, грамадска-палітычных рухаў, партый дэмакратычнага накірунку адбыліся вялізнае шэсце і мітынг.

Радуе, што ў святкаванні ўдзельнічалі тысячы людзей, маладых, поўных сіл і энергіі, стваральнікаў нацыянальных каштоўнасцей. Яны — поўная супрацьлегласць тым закамплексаваным паппрашайкам, якія 8 сакавіка бразгаталі лыжкамі па пустых місках.

Шэсце прайшло ад Плошчы Незалежнасці па праспекце Францыска Скарыны да сквера Янкі Купалы, дзе адбыўся мітынг. Наперадзе рушыла калона Беларускага згуртавання вайскоўцаў, як заявіў потым на сесіі Вярхоўнага Савета Міністр абароны Казлоўскі, колькасцю ў шэсць рот.

На мітынгу выступаючыя выказвалі занепакоенасць цяперашняй палітычна-эканамічнай сітуацыяй, якая ўскладнілася пасля выступу Старшыні Саўміна Вячаслава Кебіча з прапановай заключэння эканамічнага і ваеннага саюзаў. Прамоўцы аналізавалі становіча і прыходзілі да высновы, што зараз у Рэспубліцы самай дэстабілізуючай сілай з'яўляецца вышэйшае камандаванне узброеных сіл краіны, інтарэсы якіх сёння адстойвае Кебіч. Выступаючыя народныя дэпутаты Беларусі прапаноўвалі дабівацца адстаўкі Кебіча, заклікалі грамадзян Беларусі дамагацца правядзення незаконна забароненага рэферэндуму. Вярхоўны Савет, на думку аратараў, дыскрэдытаваў сябе яшчэ больш, чым да забароны рэферэндуму.

Лідэр БНФ Зянон Пазьняк падкрэсліў, што апазіцыя можа зрабіць шмат чаго карыснага ў парламенце, хоць і знаходзіцца ў меншасці. Але яе праца стане больш плённай, калі будзе самая актыўная падтрымка грамадзян.

Пазьняк не бачыць на Беларусі небяспекі грамадзянскай вайны. А вось пагроза яе суверэнітэту рэальная. Пагэтаму ён прапанаваў грамадзянам у выпадку пагрозы незалежнасці нашай дзяржавы прыбыць у Менск на дапамогу з усіх куткоў Беларусі.

**У. ПЛЕШЧАНКА.**



*«А што такое мітынг, мама?»*

## ...і ў Віцебску

Так здарылася, што сёлетняе святкаванне ўгодкаў абвяшчэння БНР супала з каталіцкім Звеставаннем. Пагэтаму ксёндз віцебскага касцёла св. Варвары Януш Скэнчак на імшы 25 сакавіка павіншаваў парафіян з двума вялікімі святамі і падкрэсліў важнасць ідэі нацыянальнага Адраджэння для абуджэння духоўнасці ў чалавеку, у грамадстве.

У гэты ж час на вечарыне ў свецкай культурнай установе, у Беларускім акадэмічным тэатры імя Я. Коласа, грамадскасць горада супольна і ўрачыста адзначала юбілей БНР. Святочны настрой панаваў сярод удзельнікаў імпрэзы, як гледачоў, так і выканаўцаў. Гучалі словы віншавання адно аднога, сяброў і нават незнаёмых. Пра тое, што на ўрачысты вечар прыйшлі людзі, не абыякавыя да нацыянальнага свята, сведчыў і вялікі попыт на адраджэнскую і рэлігійную літаратуру, якая прадавалася на імпрэзе.

Глядзельная зала была паўнюткая. І не дарма! Канцэрт сабраў аматараў творчасці маладога таленавітага музыканта Г. Шэмета. Гучала ягоная харэаграфічная сімфонія, якую выканаў аркестр (таксама створаны Шэметам). Слухачам былі прапанаваны і ўрыўкі з рок-оперы «Ладдзя роспачы» паводле твора У. Караткевіча. Потым грымела рок-нрольная «Грамада», кіраўнік і саліст якое зноў жа Шэмет...

І хоць імпрэза была працяглай (тры гадзіны), гледачы разыходзіліся задаволеныя, з усмешкамі на тварах, з пачуццём дабрыні й цеплыні ад уражанняў святочнага вечара.

І не змог сапсаваць ім настрой подых учарашняга, аджыўшага — маладзікі пікет вечнаўчарашніх з чырвонымі і імперскімі сцягамі. Тых, што стаялі з лозунгам: «Мы, белорусы, не хотим учить белорусский язык». Тых, міма каго праходзілі людзі...

**Васіль ІГНАЦЕНКА.**

### Сустрэча палітыкаў

Члены дэлегацыі з Нінбурга сп. Вольфганг Копф (арганізацыя па міжнародных кантактах (IBW) і сп. Ульрых Завада (партыя «зялёных») сустрэліся з прадстаўнікамі дэмакратычнай грамадскасці Віцебска. Канструктыўная гутарка нашых дэмакратаў з нямецкімі прайшла ў цёплай, сяброўскай атмасферы.

**Н. ПРЫСУТНЫ.**

# ЦІ ЎСЁ ТАК ДОБРА?

Амаль паўтары гады была прыпынена дзейнасць КПБ—КПСС, і вось у лютым намаганнямі партнамэнклятуры, якая дасюль ня выпусціла лейцаў кіравання гаспадарствам, партыя адноўлена.

Трэба зазначыць, што ўвесь гэты час камуністы не сядзелі, склаўшы рукі. Калі спачатку была разгубленасць, нават страх, то ўжо летам, дзякуючы абыякавасці нашага грамадства, неарганізаванасьці маладых дэмакратычных партый, яны пачалі голасна і ўпэўнена заяўляць, што яшчэ будуць ва ўладзе.

І вось так жадаемае камуністамі адбылося. Маланкава праводзяцца партыйныя пасяджэньні. Парушаючы закон аб палітычнай дзейнасці, рэгістрацыя членаў КПБ вядзецца на прадпрыемствах, у працоўны час, па службовых тэлефонах (якая яшчэ партыя мае такія ўмовы?).

Ізноў гучаць папулісцкія лёзунгі: маўляў, пры камуністах усё было таннае; пра сацыяльныя заваёвы—бясплатнае навучаньне, мэдыцынскае абслугоўваньне (бясконцыя чэргі, бясправе, злачыннасць, непавага да чалавека). Нарэшце, літасьціва, прызнаюць беларускае Адраджэньне, але, на жаль, ня ведаюць беларускага слова «спадары»...

Дык ці сапраўды ўсё было так добра? Вось, кажуць, хлеб каштаваў 18 капеек, малако—12. А чаму?

Мая маці ўсё жыцьцё працавала на ферме даяркай. Працоўны дзень пачынаўся а палове чацьвертай гадзіны раніцы, а заканчваўся апоўначы. Зрэдку выпадала магчымасьць пасьля абеду задрамаць якіясьці паўгадзіны. За год маці выпрацоўвала 700—1000 працадзён. Грошы не плацілі, выдавалі некальткі сот грамаў зерня ці бульбы за працадзень у канцы года. Акрамя працы патрабавалася ад кожнай гаспадаркі здаваць воўну, попел, рызьзё, плаціць падатак 300 руб. (А дзе ж узяць грошы?). Здаваць малако ад асабістай каровы, цяля, бо інакш сенажаць не выдзяляць. А калі ў сельсавеце даведаюцца, што зерне дома зьмелеш, каб дзецям якую зацірку зварыць, дык аштрафуюць і жорны паб'юць.

(Не, гэта было не ў І веку да нашай эры, гэта пасьля «вялікага» кастрычніка стала). Калі замест працаднёў увялі грашовую аплату, дык больш 30 рублёў у месяц не атрымлівалі. Вось як даставалася «таннае» малако і «танны» хлеб. За кошт зьясільваючай рабскай працы прыгнечаных сялянаў.

Ёсьць і другі бок гэтага пытаньня. Калі ўлічыць, што савецкі рубель дакаціўся да вартасьці аднэй капейкі, то і зараз хлеб каштуе 9 капеек, паўлітра малака—3 капейкі...

Цяпер наконт сацыяльных заваёў. Бясплатнае навучаньне. Бясплатныя веды. Што лёгка даецца, ніколі не цэніцца. Ды і ўзровень ведаў у вялікай колькасьці выпускнікоў школ, мякка кажучы, нездавальняючы. А настаўнікі, атрымліваючы жабрацкі заробак, кінуліся ў камэрцыйныя ваяжы, падмяняючы адзін другога. Добра яшчэ, калі падмена раўнацэнная, але калі выкладчык матэматыкі падмяняецца выкладчыкам працы,— прабачце...

Тое ж самае і зь бясплатным мэдыцынскім абслугоўваньнем. Дзе вы бачылі добрыя лекі ў аптэках? А што творыцца ў паліклініках? А нагляд за хворымі ў бальніцах? Дзякуй за такое «бясплатнае», але лепш туды не трапляць.

З часоў пераварота 17-га года камуністы ведаюць толькі дзьве арыфметычныя дзеі: адняць і разьдзяліць. Наадымаліся ўжо, надзяліліся, далей некуды. Але зноў гучаць лёзунгі аб дрэнным размеркаваньні. (Відаць, пры ім больш да лап прыліпае, чым пры вольным продажы). І ніводнага слова аб наладжваньні вытворчасьці, пераабсталяваньні залежачых ад расейскай сыравіны заводаў...

Вельмі далёкія яны і ад ідэі нацыянальнага Адраджэньня, бо заўсёды добра пачуваліся пад апекай Расейскай імпэрыі. Таму і ўзьнялі пытаньне аб двухмоўі, што падыходзіць час выкананьня закона, а надта ж ня хочацца.

Мне здаецца, што ўсе гэтыя лёзунгі штучныя, паднятыя партыйна-дзяржаўным чыноўніцтвам і накіраваныя на тое, каб і надалей закабаліць народ, трымаць яго ў цемры, невуцтве. Каб узьняць вэрхал, задурыць галовы, замуціць чыстую беларускую ваду. У замутнёнай жа вадзе лягчэй і «сваю» рыбку злавіць.

А просты народ як жыў сваімі інтарэсамі, так і жыве. Беларусы славяцца сваёй працавітасьцю, спакоем, талерантнасьцю, таму і выжылі, нягледзячы на прыгнёт, зьдзекі чыноўніцтва, мізэрныя пэнсіі ды заробкі. Вельмі далёкія яны ад камуністычных ідалаў і ідэалаў, бо на сваім карку зьведалі кошт ілжывых абяцанак, усе выгоды камуністычнага «раю». Шкада толькі, што пакуль стаяць у баку ад барацьбы з гэтым монстрам. Як кажуць, апёкшыся на малацэ, і на ваду студзіш. Але час пакажа, што загляне сонца і ў нашаваконца.

**В. ІГНАЦЕНКА, БСДГ.**

### Падарунак музею

Кіраўнік дэлегацыі нямецкага места Нінбурга Вольфганг Копф перадаў на прыёме ў гарвыканкаме старшыні віцебскага Шагалаўскага камітэта Давіду Сімановічу відэамагнітафон. Падарунак прысвечаны музею Марка Шагала.

**Ю. СЯРГЕЕЎ.**

*Лісты чытачоў*

### Даць адпор законным шляхам

На прайшоўшай сесіі ВС Беларусі, прапартыйная большасць сударгава спрабавала заключыць ваенны саюз з Расеяй і Казахстанам. Толькі, напэўна, Бог перашкодзіў гэтай большасці набраць кворум якраз 1-га красавіка. Пытанне завісла ў паветры, але, наўрад ці надоўга. Нашы макашовы гэтую справу так не пакінуць.

Вось чаму я і прапаную ўсім сумленным грамадзянам нашай Радзімы, якія не жадаюць, каб нашы сыны ахоўвалі неабсяжныя абшары новай імперыі, хто супраць таго, каб нашы матулі зноў атрымлівалі цынкавыя труны з гарачых кропак, тэрмінова даслалі ў Вярхоўны Савет свае пратэсты супраць саюза з вельмі неспакойным усходнім суседам.

Нельга даваряць свой лёс парламенту, які не хоча лічыцца з думкай народа.

Прапаганда кажа, што Беларусь прадаюць капіталістам. Дык хто ж прадаецца імперыялістам? Ці не тыя, хто ўступіўшы ў імперскі ваенны блок, зноў раскруціць махавік узбраенняў?

Ці не яны дадуць магчымасць усім замежным мілітарыстам зноў мець мільярдныя даходы?

Трэба тэрмінова пытанне аб ваенным саюзе ставіць на рэферэндум, а, заадно, вырашыць пытанне і пра зямлю, і аб адхіленым той жа большасцю рэферэндуме аб даверы Вярхоўнаму Савету.

**Анатоль ВІЦЯЗЬ,**
г. Віцебск.

**Ад рэдакцыі:** Дарэчы, тэлеграмы з пратэстамі супраць ідэі ваеннага саюза з іншымі краінамі і дзейнасці кіраўніка ўрада В. Кебіча, складзеныя сябрамі гарадскога клуба выбаршчыкаў "За дэмакратычныя выбары", ужо накіраваны ў парламент.

### Паўстаюць пытанні

Здаецца, усім ужо вядома, што законы забараняюць займацца палітычнай дзейнасцю на прадпрыемствах і ва ўстановах.

Але былыя камуністы ВА «Віцязь», пэўна, па старой звычцы думаюць інакш. І вось чытачы 10 сакавіка з аб'явы пад назвай «Товарищи-единомышленники» ў № 10 завадской газеты «Рабочее слово» даведваюцца, што нейкі аргкамітэт вядзе перарэгістрацыю былых камуністаў і прапануе жадаючым «вливаться» в ряды КПБ. І каб зрабіць гэтае, можна атрымаць у рабочы час даведкі па службовых тэлефонах прадпрыемства 28-73 ды 20-75. Ну, як той казаў, прыплылі. Далей ужо нельга.

Пагэтаму і ўзнікаюць пытанні да адміністрацыі аб'яднання: чаму ягоныя супрацоўнікі парушаюць заканадаўства? І як яшчэ пры гэтым паспяваюць працаваць?

**Мікола СЯЛЯНСКІ.**



Фота А. МЕМУСА.

Лесвіца.

## Дробязь, але прыемна

Мастацтва—рэч сур'ёзная. Але і ёй неабходна рэклама. Нават, калі яна, на першы погляд, немудрагелістая.

Пагэтаму Беларусі тэатр «Лялька» «запусціў» у ход новыя рэкламныя «хітрынкі». Пры дапамозе эстонскіх прадпрымальнікаў выпушчаны прыгожыя каляровыя налепкі, прысвечаныя асобным работам віцебскіх лялечнікаў, а таксама «фірменны» каляндар тэатра. Гэтыя «хітрынкі» карыстаюцца поспехам у публікі. Дарэчы, як і большасць спектакляў «Лялькі».

**М. ВАЛАЧОБНІК.**

## *Праграма мастацкіх фільмаў на рэшту тэлетыдня*

**СЕРАДА, 7 КРАСАВІКА**

**Беларускае тэлебачанне**

**9.40, 21.35.** «Мачаха».
**11.25.** «Штаны».
**14.35.** «Сем крыкаў у акіяне».

**Канал «Астанкіна»**

**8.35, 18.05,** «Проста Марыя».
**11.20.** «Востраў».

**Канал «Расія»**

**11.00.** «Пан афарміцель».
**21.05.** «Санта-Барбара».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

**8.05.** «Мая другая мама».
**23.35.** «Другое нараджэнне». 2-я серыя.

**ЧАЦВЕР, 8 КРАСАВІКА**

**Беларускае тэлебачанне**

**9.00, 21.35.** «Мачаха».
**10.45.** «Гу-га!» 1-я і 2-я серыі.
**14.30.** «Лета было толькі дзень».

**Канал «Астанкіна»**

**8.45, 18.15.** «Проста Марыя».
**21.10.** «Белае адзенне». 3-я серыя.

**Канал «Расія»**

**11.00, 19.35.** «Санта-Барбара».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

**20.55.** «Мая другая мама».
**23.35.** «Другое нараджэнне». 3-я серыя.

**ПЯТНІЦА, 9 КРАСАВІКА**

**Беларускае тэлебачанне**

**9.30.** «Мачаха».
**14.30.** «Родная кроў».
**21.35.** «Дзікае сэрца» (Мексіка).

**Канал «Астанкіна»**

**8.50, 15.10.** «Блакітны патруль».
**20.55.** «Белае адзенне». 4-я серыя.

**Канал «Расія»**

**11.05.** «Санта-Барбара».
**16.45.** «Сасланы на планету Зямля». 5-я серыя.
**23.35.** «Імітатар».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

**8.10.** «Мая другая мама».
**11.40.** «Пацаны» (пасля дакум. фільма).

**СУБОТА, 10 КРАСАВІКА**

**Беларускае тэлебачанне**

**8.25.** «Дзікае сэрца» (Мексіка).
**13.35.** «34-ы, хуткі».
**21.35.** «Манпарнас, 19» (Францыя).

**Канал «Астанкіна»**

**12.30.** «Максімка».
**18.45.** «Стрэлы ў цемры».
**20.40.** «Ганна Карэніна» (ЗША). 1-я серыя.

**Канал «Расія»**

**11.00.** «Земля Саннікава».
**19.35.** «Нулявы варыянт».
**23.30.** «Начальнік Чукоткі».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

**11.05.** «Настаўнік спеваў».
**13.15.** «Як Іванка-дурненькі за цудам хадзіў».
**20.40.** «Мая другая мама».

**НЯДЗЕЛЯ, 11 КРАСАВІКА**

**Беларускае тэлебачанне**

**10.05.** «Мачаха».
**21.20.** «Інтэрв'ю» (Італія).

**Канал «Астанкіна»**

**11.50.** «Прыгоды чорнага Прыгажуна».

**Канал «Расія»**

**19.25.** «Хто ёсць Джулія?» (ЗША).

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

**16.05.** «Кароль Лір».

## Прыдзіце, не пашкадуеце

Не часта балуюць Віцебск сваімі візітамі вядомыя замежныя навукоўцы. Пагэтаму можна чакаць вялікага наплыву публікі на цыкл з 5-ці лекцый, што прачытае 12—16 красавіка ў педінстытуце пецярбургскі архітэктар, аўтар знанай манаграфіі «Залатая сімфонія», удзельнік міжнародных семінараў, сімпозіумаў і канферэнцый па міждысцыплінарных сувязях, лаўрэат дзяржаўнай прэміі Расійскай Федэрацыі **Ігар Шмялёў.** Тэмы лекцый наступныя: «Тайна склепа Хесі-Ра (Егіпет)», «Ле Карбюзье «Мадулор—залатая прапорцыя»», «Касмічны прынцып гармоніі», «Праблема свядомасці» (гісторыя рэлігіі).

Больш падрабязную інфармацыю пра цыкл можна атрымаць па тэл. **5-22-19.**

**Н. КІЛДЗІНГ.**

## Рэпертуар Беларускага акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа

**7 красавіка** «Залёты»
**8 красавіка** «Касатка»
**9 красавіка** «Сылгалі Богу, сылгалі»
**10 красавіка** «Хачу здымацца ў кіно»
**13 красавіка** «Кошчын дом», пачатак у 10 гадз. і 12 гадз. 30 хв.
«Блэз»

Пачатак вячэрновых спектакляў а 19 гадз.
Даведкі па тэл.: **36-06-80, 36-00-43.**

## У кінатэатрах горада з 7 да 11 красавіка

**«БЕЛАРУСЬ»**

**«Фінальны альянс»** (ЗША). 9.40, 11.30, 13.20, 15.10, 17.00, 18.50, 20.40
**«Распусніца»** (Францыя, малая зала). 10.00, 12.00, 14.00, 16.00, 18.00, 20.00.
Аўтаадказчык 14028.

**«СПАРТАК»**

**«Тата—мой палюбоўнік»** (Францыя). 10.00, 12.00, 14.00, 16.00, 17.50, 19.40, 21.30.
Аўтаадказчык 365121.

**«КАСТРЫЧНІК»**

**«Паляўнічыя за монстрамі»** (Аргенціна). 9.40, 11.10, 12.40, 14.15, 15.50, 17.25, 19.00, 20.35.
Аўтаадказчык 365544.

**«БРЫГАНЦІНА»**

**«Спакуса»** (Італія). 14.50, 16.30, 18.10 (сямейны), 19.50, 21.30.
**«Магазін «Бікіні»** (ЗША). 14.40, 16.20 (ільготны), 18.00, 19.40, 21.20.
**«Раз, два, гора—не бяда!».** 9.30, 11.00.
**«Вярніце бабулю».** 9.20, 10.40, 12.00, 13.20.
**Зборнік мультфільмаў.** 12.30, 13.40.
Аўтаадказчык 18179

**«МІР»**

**«Жандар і жандарметкі»** (Францыя). 9.50, 11.35, 13.25, 15.15, 17.05, 18.55, 20.40.
**«Адысея капітана Блада»** (Францыя, 2 серыі). 10.00, 12.00, 14.00, 16.00, 18.00, 20.00.
**Відэафільмы.** 10.10, 12.10, 14.40, 17.00, 19.30.
Аўтаадказчык 362223.

**«УСХОД»**

**«Апошні суд»** (Індыя, 2 серыя). 14.00, 16.40, 19.20.
Аўтаадказчык 332936.

**ВІДЭАТЭАТР «ВІЦЬБА»**

**«Кікбаксёр у пустыні»** (ЗША, вялікая зала). 7—9 красавіка. 14.30, 16.40, 18.50, 21.00. 10—11 красавіка. 10.00, 12.10, 14.20, 16.30, 18.40, 21.00.
**«Чужыя грошы»** (ЗША, малая зала). 7—9 красавіка. 14.40, 16.50, 19.00, 21.10. 10—11 красавіка. 10.10, 12.20, 14.30, 16.40, 18.50, 21.10.
Аўтаадказчык 14945.

*Ліст чытача*

## Не можа

Зразумела, чаму Вярхоўны Савет РБ не звярнуў увагу на прапанову дэпутатаў ад апазіцыі выказаць свае адносіны да падзеяў у Расеі і падтрымаць прэзідэнта Ельцына.

Фактычна падтрымаўшы ў жніўні 91-га ГКЧП, зараз Вярхоўны Савет не можа змяніць сваю пазіцыю і падтрымаць рэформы прэзідэнта. Бо рэформы ў Расеі—шлях да дэмакратыі і страта ўлады неакамуністамі ў Расеі і Беларусі, што цягнецца ў ейным хвасце. Не можа наменклатурна-неакамуністычны ВС РБ падтрымаць дэмакрата Ельцына.

**В. І.**

## *Вясёлы глобус*

Самалёт ляціць на вышыні 10 тысяч метраў. Сцюардэса падыходзіць да пілота й гаворыць: «Пасажыр з сёмага рада патрабуе, каб я адчыніла люк—ён хоча выйсці».

Пілот: «Так, адчыні люк. Ён заўсёды тут выходзіць».

* * *

—Падсудны, я ўжо судзіў вас тры гады назад за крадзеж аўтамабіля.

—Так, пане суддзя. Але ж ведаеце, што гэтыя драндулеты не вечныя.

* * *

—Алік, што ты рабіў сёння на ўроку?—пытаецца маці ў сына.

—Чакаў званка.

* * *

—Памятаеш, мама, ты казала, што калі я атрымаю «чацвёрку», дык буду гуляць цэлы дзень?

—Памятаю, сынку. А што?

—Сёння я буду гуляць толькі паўдня.

* * *

—Ваня, што ты намаляваў?—пытаецца настаўніца.

—Варону і сыр.

—А дзе ж варона? Дзе сыр?

—Варона з'ела сыр і паляцела.

* * *

—Косця, ты дрэнна вывучыў урок,—кажа настаўніца,—відаць не заглядваў у кнігу.

—Заглядваў, толькі не на тую старонку.



Заснавальнік

*Віцебскі гарадскі клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары»*

●

**Галоўны рэдактар Барыс ХАМАЙДА**

●

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Валянцін АРЛОЎ**
**Хрыстафор ЖАЛЯПАЎ**
**Васіль ІГНАЦЕНКА**
**Юры ЛАЎРЭНАЎ**
**Ларыса МІХНЕВІЧ**
**Міхась ПАЎЛАЎ**
**Уладзімір ПЛЕШЧАНКА**
**Леанід ТАМАРОВІЧ**
**Ігар ЦІШКІН**

●

Мастак **Р. Клікушын.**
Фотаздымкі **М. Міхайлава.**
**Адрас рэдакцыі:** 210601, м. Віцебск, вул. Гогаля, 17.
**Тэл.** 37-35-06, 37-28-44.

**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор ды дакладнасць пададзеных фактаў, цытатаў, гаспадарча-статыстычных даных, уласных імёнаў, геаграфічных назваў і іншых звестак. А таксама за тое, што ў матэрыялах пададзены звесткі, якія з'яўляюцца дзяржаўнай ці спецыяльна ахоўваемай законам таямніцай.**

**Рэдакцыя можа апублікаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункт гледжання аўтара.**

**Пры перадруку спасылка на «Выбар» абавязковая.**

Рукапісы не вяртаюцца й не рэцэнзуюцца.

**Бягучы рахунак рэдакцыі № 200700962 у Віцебскім камерцыйным банку (Віцкамбанк). Код (МФО) банка 150801701.**

**Газета набраная і надрукаваная афсетным спосабам у Віцебскай узбуйненай друкарні імя Камінтэрна: г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 6.**

**Выходзіць штотыднёва па серадах**

Нумар падпісаны да друку 6.04.93 г. у 17.15.
Наклад 1500 экз.

**Цана 3 руб.**